*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ **17(73)** ◈ 30 красавіка 1992 г. ◈ Кошт 20 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)

## ПОСТУП ТЫДНЯ

**ЗАВЯРШЫЛА СВАЮ РАБОТУ СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ. У апошнія дні ёю быў прыняты шэраг законаў — аб прафесіянальных саюзах, аб ахове навакольнага асяроддзя, аб аператыўна-вышуковай дзейнасці і іншыя. З 1 ліпеня намечана ўвесці ў дзеянне Закон аб прыватызацыі жыллёвага фонду.**

*НАПЯРЭДАДНІ 6-Й ГАДАВІНЫ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ КАТАСТРОФЫ ЎРАД РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫІ ПРЫНЯЎ ПАСТАНОВУ «АБ МЕРАХ ПА РЭАЛІЗАЦЫІ ПАГАДНЕННЯ ПАМІЖ РЭСПУБЛІКАЙ БЕЛАРУСЬ І РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫЯЙ АБ АБ'ЁМАХ І ПАРАДКУ ФІНАНСАВАННЯ Ў 1992 ГОДЗЕ ВЫДАТКАЎ НА ЛІКВІДАЦЫЮ ВЫНІКАЎ КАТАСТРОФЫ НА ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ АЭС». У спецыяльны фонд, утвораны пагадненнем дзяржаў СНД па ліквідацыі і пераадоленню вынікаў чарнобыльскай катастрофы ў студзені гэтага года, штоквартальна будзе пералічвацца 4 616 мільёнаў рублёў (у цэнах 1984 года).*

**«ТЫДЗЕНЬ** міласэрнасці і памяці» праводзяць Міністэрства адукацыі Беларусі і Фонд міласэрнасці і здароўя з 26 красавіка па 5 мая ў нашай Рэспубліцы.

*НАРЭШЦЕ ПАДПІСАНА ПАГАДНЕННЕ ПАМІЖ САЛІГОРСКІМІ ШАХЦЁРАМІ І ЎРАДАМ БЕЛАРУСІ. ГЭТА АЗНАЧАЕ, ШТО ЗАБАСТОЎКА КАЛІЙШЧЫКАЎ СПЫНЯЕЦЦА. Генеральны дырэктар вытворчага аб'яднання ідзе ў адстаўку. Шахцёрам будзе выплочвацца 15 працэнтаў ад валюты, якую атрымлівае прадпрыемства. 60 працэнтаў кошту асноўных фондаў перадаецца ва ўласнасць калектыву. Івана Юргевіча, старшыню Незалежнага прафсаюза гарнякоў, пасля 18 дзён галадоўкі паклалі ў бальніцу.*

**ЗАЦВЕРДЖАНЫ** Асноўныя правілы арганізацыі і правядзення атэстацыі экстэрнаў за курс базавай і сярэдняй школ.

*НАСТОЙЛІВЫЯ ПАТРАБАВАННІ НАСТАЎНІКАЎ, ІХ ПІКЕТАВАННІ КАЛЯ ДОМА ЎРАДА І ЗАБАСТОЎКІ ПРЫНЕСЛІ ПЛЁН — прынята рашэнне сярэднія стаўкі зарплаты педагогаў устанавіць з 1 верасня гэтага года не ніжэй сярэдняй зарплаты служачых у прамысловасці, а прафесарска-выкладчыцкага саставу ВНУ як мінімум — у паўтара раза вышэй такога ўзроўню.*



Адзін з самых любімых і радасных на Беларусі свят — Пасха, ці Вялікдзень, як часцей за ўсё называюць яго беларусы. Гэта і хрысціянскае свята ўваскрэсення распятага Хрыста, і свята старажытных славян у гонар Сонца, у гонар абуджэння прыроды.

Сёлетняя Пасха прызнана ў Беларусі ўпершыню як усеагульнае свята не толькі народам, але і ўрадам.

Як святкавалі Пасху ў Іўеўскім раёне, вырашылі паказаць сваім землякам удзельнікі фальклорнага калектыву «Крыніца» з гарадскога пасёлка Юрацішкі. Пакрысе збіралі яны ў старажылаў песні і выслоўі, запісвалі ўспаміны і падрыхтавалі праграму абраду са спяваннем валачобнікаў, з гульнямі.

НА ЗДЫМКУ: да святочнага стала запрашае Вольга Сайко.

Фота Яўгена КАЗЮЛІ. (БелТА).



Праваслаўная царква адзначыла адзін з дванаццаці самых вялікіх свят царкоўнага года — Благавешчанне. Упершыню яно было ўнесена ў царкоўны каляндар у IV стагоддзі. На Русі свята Благавешчанне ўзнікла пасля ўвядзення хрысціянства ў 988 годзе.
Урачыстыя літургіі прайшлі ў 730 праваслаўных храмах Беларусі.

НА ЗДЫМКУ: урачысты малебен у Аляксандра-Неўскай царкве г. Менска.

Фота Яўгена КАЗЮЛІ (БелТА).

## Каб выжыць як суверэнны народ

Праблема выжывання беларусаў як суверэннага народа ў сённяшніх умовах стала галоўнай у часе абмеркавання за «круглым сталом» тэмы «Гісторыя Беларусі і навукова-папулярная і мастацкая літаратура для дзяцей і юнацтва», які адбыўся ў менскім Доме літаратара. У дыскусіі прынялі ўдзел вядомыя пісьменнікі, вучоныя, настаўнікі, грамадскія дзеячы. Уступнае слова сказаў Адам Мальдзіс. З вялікай увагай былі выслуханы грунтоўныя выступленні вядомых гісторыкаў Міхася Ткачова, Міколы Ермаловіча і іншых. Пра канцэпцыю нацыянальнай школы і развіцця гістарычнай самасвядомасці ў дзяцей гаварыла першы намеснік міністра адукацыі Л. К. Сухнат.

Л. М.

«Упершыню публічна расказана пра тое, пра што чуў у дзяцінстве, што глыбока запала ў маю памяць... — пра падполле ў колішнім Глыбоцкім педвучылішчы».

Стар. 3.

◆

Што павінен сказаць беларус?

Стар. 5.

◆

Паэзіі радок чароўны

Стар. 6.

*Віктар ШНІП*

## Ад выбуху чарнобыльскай бяды...

Ад выбуху чарнобыльскай бяды,
Як цені чорныя, бягуць гады.
Ды кожны дзень, нібы апошні дзень,
Жывём і дзякуем за жыцце Богу.
І ўсё часцей перарывае цень
Людзям жыццёвага святла дарогу.
Здаецца, трэба уцякаць хутчэй,
Каб там ураваць хаця б дзяцей,
Але сядзім, заложнікі бяды,
Бо тут Айчына, нашы тут Магілы
І нам яшчэ цвітуць вясной сады,
Хаця для нас нішто, падчас, няміла.
Мы плачам моўчкі ля магільных пліт,
Спакойна адыходзячы ў нябыт.
І нам гавораць, падабрэўшы, х а м ы:
— Мы дазваляем вам хадзіць у Храмы.
І мы ідзём з надзеяю да Бога;
Як вечнасць, доўгая у нас дарога.
І шэпчам мы, збялеўшы ад пакут:
— О, Божа, уратуй наш родны Кут...

# «СЛОВО»

***Выйшаў** чацвёрты нумар газеты «Слово», заснаванай Таварыствам украінскай мовы імя Тараса Шаўчэнкі «Просвіта».*

Адкрываецца ён артыкулам кандыдата тэхнічных навук Грыгорыя Грабенюка «Пагроза для Украіны» («Загрожена Україна»). Ва ўрэзцы да артыкула гаворыцца: здавалася б, не можа ісці размовы пра пагрозу ўкраінскай дзяржаве, бо яе незалежнасць прызнала амаль сотня дзяржаў; пачалося будаўніцтва ўласных Узброеных Сіл — нацыянальнай гвардыі, маем сваю ядзерную зброю, на вернасць Украіне прысягаюць вайскоўцы. І ўсё ж такі...

На ўкраінскім рэферэндуме ў пачатку мінулага года толькі чацвёртая частка народа праявіла пэўную нацыянальную самасвядомасць. На другім рэферэндуме, у канцы года, за незалежнасць Украіны пададзена ўжо звыш 90 працэнтаў галасоў. Але калі разабрацца, народ сказаў «так» толькі матэрыяльнаму дастатку, які ён спадзяецца атрымаць у незалежнай Украіне. Аб гэтым сведчаць перш за ўсё перадвыбарчыя кампаніі кандыдатаў у прэзідэнты, калі амаль не закраналіся пытанні нацыянальна-вызваленчай барацьбы народа Украіны за сваю дзяржаўнасць, мову, культуру. Так, будучы прэзідэнт рэспублікі Л. Краўчук неаднойчы заяўляў аб прыярытэтнасці сувязей з Расіяй. А адзін з кіраўнікоў украінскага парламента, выступаючы на сесіі, прама сказаў: «Извините, я буду говорить о серьёзных вещах, поэтому перехожу на русский язык». «Вядома,— іранізуе аўтар артыкула,— украінская мова для «серьёзных вещей» не падыходзіць». І робіць выснову: гэта трагедыя ўкраінскага народа, што нават не абы-які талент, як цяперашні прэзідэнт рэспублікі, поўнасцю ачысціў сваю душу ад нацыянальнага гонару і самалюбства.

Апошнім часам свядомасць людзей «забаламучваюць» гаворкамі пра эканоміку. Але пра гэта гаворыцца ўжо 74 гады. І ўвесь час Украіна выконвае ролю «ломовой лошади». Тады як сотні краін маюць лепшы дастатак пры куды горшых прыродных магчымасцях. Украінцам патрэбна выйсці з паднявольнага становішча, пазбавіцца ад нацыянальнага нігілізму. Бо з імі можа стацца тое, што з ірландцамі, 100 працэнтаў якіх жывуць сёння па англійскіх стандартах. А пачыналася там з таго, што настаўнікаў, якія навучалі дзяцей ірландскай мове, вешалі.

На Украіне цяпер нацыянальную ідэю жывіць толькі інтэлігенцыя, якая сама дэмаралізавана. Каб не стаць поўнымі касмапалітамі, Г. Грабянюк прапануе прыняць шэраг мер на ўзроўні ўрада, уключаючы распрацоўку і новага Закона аб мовах. Яго павінен суправаджаць канкрэтны механізм ажыццяўлення.

Небяспека незалежнай нацыянальнай дзяржаве ўкраінскага народа,— гаворыцца ў артыкуле,— у нас саміх. Нам трэба згуртавацца вакол нацыянальнай ідэі. Гісторыя адвяла нам абмежаваны час.

Артыкул Анатоля Шчарбацюка з вёскі Лазавата, што паблізу ад Вінніцы, «Дух крыві» прысвечаны выхаду кніжкі Рамана Коваля «Ці магчыма ўкраінска-расійскае замірэнне?». Аўтар артыкула ўсебакова разглядае гісторыю і сутнасць «украінскай ідэі», падкрэсліваючы, што здаровае жыццё нацыі патрабуе ўсвядоміць свайго ворага, для чаго мала развянчаць міф пра нібыта агульнае паходжанне ўкраінскага і маскоўскага народаў і натуральнасць іх «сужыцця» ў адной дзяржаве, — варта выявіць спецыфічную несумяшчальнасць гэтага сужыцця для аднаго з народаў.

Спаслаўшыся на сцвярджэнне аўтара кнігі аб ўгра-фінскім паходжанні рускіх, аб набліжэнні іх да свайго знішчэння, як бы ні цешылі яны сябе «тысячагадовай гісторыяй», якой няма і не было ў той «аморфнай біямасы», што ўжо трэці век называюць «расіянамі», а затым «савецкімі», адмовіўшыся ад папярэдняй прыметнікавай формы «рускія», А. Шчарбацюк напамінае выснову гэтай кнігі: «Хто прыйшоў асіміляваць, той ад асіміляцыі і загіне». Далей у артыкуле гаворыцца: паглядзіце на цяперашніх выразнікаў украінскай дзяржаўнасці на афіцыйным узроўні — гэта людзі рабскага духу, турэмнага кругагляду, носьбіты рабскай хітрасці і абмежаванасці, занятыя клопатам аб вызваленых папярэднімі партыйцамі крэслах. Яны і цяпер мысляць катэгорыямі шматка сала і свайго месца на кухні, а зброя і армія патрэбны ім толькі для таго, каб абараняць гэты шматок для сябе. Яны і не думаюць пра Украіну, таму паспешліва аддаюць ворагам ядзерную зброю і тую тактычную, якая ўжо аплочана тысячамі ўкраінскіх жыццяў: плутоній, з якога бомбы зроблены, здабываўся і на ЧАЭС. «Парламент», які згадзіўся на гэта, хай нават пад націскам антыядзернай, па словах аўтара, паранойі, учыніў злачынства супраць свайго народа.

А ці не лепей можна наесціся, пытаецца А. Шчарбацюк, маючы элітарную армію з аэрадромамі і ядзернымі бомбамі ў падземных ангарах? Калі ў руках лук і страла накладзена на цеціву, спрэчкі за мяжу сціхаюць. Адмовіцца ад стралы — значыць, прызнаць сваю гатоўнасць стаць ахвярай для іншых. І добра, што з'явіліся хлопцы, якія адстойваюць Украіну для ўкраінцаў, як гэта робіць Ле-Пэн, заяўляючы: «Францыя — французам».

Кіраўнік «Просвіты» г. Роўна дацэнт педагагічнага інстытута Барыс Сцепанішын у артыкуле «Рэнесанс нацыянальнай асветы і культуры» аналізуе стан адукацыі, музычнай культуры, кінафікацыі, народных промыслаў. У самым пачатку ён зазначае, што без нацыянальнай культуры і школы ўласныя банк, грошы, мытні, войска і іншыя атрыбуты дзяржаўнасці не будуць мець свайго касцяка, жыватворнай артэрыі духоўнага жыцця нацыі.

Найбольшае значэнне ў артыкуле надаецца школе, дзе ўжо ўведзена вывучэнне гісторыі Украіны, народазнаўства, абноўлены праграмы па ўкраінскай літаратуры, спевах. Але дэпартызацыя і дэпалітызацыя праведзена фармальна, яшчэ і цяпер «абалваньваюць» вучняў брахнёй пра так званых куркулёў, фальшываю гераікай грамадзянскай і Другой сусветнай войн. Дзеці карэннай нацыянальнасці шмат дзе вымушаны вучыцца на расійскай мове. «Дакуль такое будзе? — пытаецца аўтар.— Нашто нам такая ўлада, якая не можа абараніць духоўнае жыццё нашых дзяцей?»

Сярэдняя спецыяльная і вышэйшая школы з-за сваёй «зрасійшчанасці» і «збальшавічанасці» таксама патрабуюць радыкальных рэформ. Шэраг прадметаў выкладаецца па-расійску, хоць многія выкладчыкі жывуць у Роўне дзесяткі гадоў. «Як трэба не паважаць народ, сярод якога жывеш, яго мову, культуру, каб так беспардонна, па-імперску паводзіць сябе,— піша Б. Сцепанішын і дадае: — Дакуль, пытаю, пад маркаю паліталогіі ў нашых ВНУ будуць выкладаць гісторыю злачыннай КПСС?»

Зруйнавана культура Ровеншчыны. У харавых калектывах нямала талентаў, але і яны аддаюць даніну нейкім азіяцкім прысвістванням, «дэцыбельным» выкрыкам, адмаўляюцца ад акампанементу народных інструментаў. Ды і на калядаванні і шчадраванні многа гучыць фальшывых тэкстаў, адчуваюцца чужыя ўплывы. У дзейнасці ж філармоніі таксама аддаецца перавага прыезджым эратычным шоу імя Кацярыны II ці «Ласковому маю», а ўласныя калектывы не маюць падтрымкі.

З экранаў кіно, тэлебачання «льецца» эратычны бруд, жорсткасць, цынізм, мардабой. І зноў жа ставіцца пытанне, дакуль мы будзем цярпець, як калечаць душы і нішчаць псіхіку моладзі? А ці можна мірыцца з тым, што адміраюць мастацкія рамёствы, якія раней квітнелі на Палессі? Нельга таксама дазволіць, каб з сабора праз гучнагаварыцелі лілася на плошчу чужая мова.

Пад канец артыкула аўтар звяртаецца да чытачоў: калі вы грамадзяне вольнай дзяржавы, а не рабы, вызваляйцеся ад колішняй партнаменклатуры, якая і цяпер, маючы вялікі ўплыў на культуру, думае не аб ёй, а толькі аб сваіх прывілеях.

Ёсць у газеце артыкулы «Пра неадкладную патрэбу ўкраінізаваць украінскае тэлебачанне», пра ўдасканаленне правапісу, пра Украінскую акадэмію мастацтваў, пра ўстаноўчы сход «Общества русского языка им. Виктора Некрасова», які заклікаў «защищаться от засилия украинского языка» (хоць усюды ў Кіеве пануе ўсё тая ж расійская мова), і іншыя матэрыялы. Цэлая старонка адведзена паэзіі «бяспашпартнага» Алеся Ульяненкі з прадмовай Яўгена Пашкоўскага.

**А. НІКАНАЎСКІ.**

# «Развіваць нашу думку па-нашаму...»




Магчыма, і не чыталі... Дні былі святочныя, а кніжачка гэтая ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла напрыканцы старога года і хутка знікла з кнігарань. Я прыдбаў яе і не шкадую, бо вельмі ж ужо думкі аўтара сугучны таму, чым жывём мы сёння, што турбуе і непакоіць кожнага, хто не можа быць абыякавым да далейшага лёсу Бацькаўшчыны. Узяць хоць бы гэтае прызнанне: «Развіваць нашу душу па-нашаму, а не па-чужому, гэта наша павіннасць. Нам трэба чытаць дзецям і сялянам нашы кніжкі, вучыць нашы вершы, старацца паднясць веру ў людзей, што яны людзі, як і ўсе, што наша мова не горшая ад другіх, бараніць нашу песню, а не ганьбаваць сваім родным і не саромецца яго, а любіць усёй душой і працаваць! Працаваць трэба! Не калісь яшчэ, чакаючы лепшых часоў, а зараз, не адкладваючы ні на адну гадзіну».

Гэтыя словы прагучалі са старонак газеты «Наша ніва» 21 чэрвеня 1912 года і належаць яны паэту-нашаніўцу Сцяпану Пятэльскаму, які ўвайшоў у гісторыю нацыянальнай літаратуры пад псеўданімам М. Арол. У наш час пра гэтага, увогуле малавядомага, паэта пісалі А. Лойка («Гісторыя беларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд»), Л. Тарасюк, М. Мушынскі і Я. Саламевіч, які падрыхтаваў зборнік паэта «Лірнік» да друку (укладанне, прадмова і каментарыі).

Яшчэ ў 1913 годзе М. Арол даслаў рукапіс «Лірніка» сакратару беларускага выдавецкага таварыства ў Вільні (на той час ім быў Янка Купала) з такой просьбай: «Калі знойдзеце ў гэтым рукапісе вершы слабаватыя, то не друкуйце. Хай будзе кніжачка і тоншая, абы каштаўнейшая».

Пачалася Першая сусветная вайна, і вершы паэта не былі выдадзены. На шчасце, рукапіс «Лірніка» захаваўся ў рукапісным аддзеле Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы. Такім чынам, зборнік паэта выйшаў у свет са спазненнем на 80 гадоў.

У кнізе чатыры раздзелы: «Паэзія», «Пераклады», «Публіцыстыка», «Лісты». Матывы вершаў характэрныя для літаратуры пачатку стагоддзя. Гэта ўсхваляванае слова сына Беларусі, які занепакоены нацыянальнай і сацыяльнай заняволенасцю народа. Душа лірычнага героя прагне споведзі. Найбольш характэрны ў гэтым сэнсе верш «Думкі».

Бываюць часіны, як бы замірае
Душа, не гаворыць, маўчыць,
Як быццам не чуе, нічога не знае.
Сном цяжкім скаваная спіць...
Тады ад людзей анічым, так здаецца,
І я не адходжу,— ланцуг іх цягну,
Пакуль не устане, пакуль не прачнецца
Душа ад забыцця, ад сну.

Паэт непакоіўся, што людзі яго думкі не зразумеюць, бо «іх душы — каменні, што ў полі маўчліва ляжаць. І трэба ім грому, маланкі прамення, каб сонныя вочы да неба узняць».

М. Арол не прымаў нацыянальнай нематы, не разумеў прыстасаванцаў, гатовых здрадзіць свайму народу. Яго верш «Сынам Беларусі» выкрывае рэнегацтва беларусаў, абыякавых да лёсу Бацькаўшчыны. «Сэрца нудою шчымела» ў паэта, калі пісаў пра тых, хто забыўся, што ён беларус.

Ўсё, што ўзрасціла старонка любімая,
Усё, што магла даць, як матка радзімая,—
Ўсё на сынкоў аддала.
Чым жа ж сынкі ёй за ўсё адгадзіліся?
Тым, што зусім ад яе адхіліліся,
Быццам не маць ім была!
Сэрца ад гневу маё разрываецца,
З вуснаў пракляцце усім вам зрываецца,
Вам, Беларусі сыны!
Вы адракліся, забылі, пакінулі,
Вы, быццам юды, ўрагам яе кінулі,
Здраднікі вы, не сыны!

Хто ж ён такі, Сцяпан Пятэльскі — М. Арол? Са скупых біяграфічных звестак, сабраных і пададзеных Я. Саламевічам ва ўступным слове да «Лірніка», даведваемся: С. Пятэльскі нарадзіўся ў мястэчку Гарадок на Беласточчыне каля 1890 года. У 1909 годзе скончыў царкоўна-настаўніцкую школу ці то ў Ялоўцы, ці то ў Свіслачы. Затым настаўнічаў. У розных крыніцах называюцца Гарадок, Ялоўка, Парэчча, Струга. Вядома дакладна, што з восені 1910 года паэт працаваў настаўнікам у в. Струга цяперашняга Мастоўскага раёна. Пазней жыў у Літве. У 1914 годзе яго мабілізавалі ў армію. Памёр ад тыфу ў 1917 ці 1918 годзе. Жыццё паэта абарвалася на самым узлёце, як і ў М. Багдановіча, С. Палуяна, А. Гаруна. У свой час М. Багдановіч у артыкуле «За тры гады. Агляд беларускай краснай пісьменнасці 1911—1913 гг.» пісаў: «Трэба, адмеціць яшчэ Я. Журбу, М. Арла, і Янука Д. Арол і Янук Д. — людзі, што маюць палёт і талент, але мала шліфуюць яго». Сказана гэта пра паэта-пачаткоўца, які толькі заявіў аб сабе на старонках «Нашай нівы».

У «Лірнік» увайшлі пераклады твораў украінскага паэта-дэмакрата Л. Глібава, верш Г. Гейнэ «Песня», артыкулы В. Бялінскага «Дзве дарогі» і «Чым жыве народ», сугучныя думкам самога М. Арла,— пра служэнне літаратуры народу.

Крытычным пафасам вызначаецца артыкул, надрукаваны ў сакавіку 1913 года ў «Нашай ніве» («Што гаворыць п. Мачульская аб беларусах і іх нацыянальным адраджэнні»), напісаны ў адказ на публікацыю ў месячніку «Народное образование». Мачульская сцвярджала, што беларускія працаўнікі займаюцца пустой справай, бо «беларускай нацыянальнай асобнасці ніякай не было і няма, што ў беларусаў няма ні мовы сваёй, а ўсё запазычана або ў расейцаў, або ў палякаў, або ў маларусаў, што ў беларусаў няма ніякага фундаменту, на якім можна было б строіць беларускую будучыню...» Артыкул М. Арла актуальны і сёння, бо адрасаваны нашым манкуртам. У нататках «Да беларускай моладзі» і «Аб нашай песні» ўздымаюцца праблемы фальклору. «Трэба, каб наша вясковая моладзь не пяяла гэтай дрэні (расейскія частушкі — А. М.), а пяяла свае песні. Многа ў нас яшчэ захавалася ад бацькоў і дзядоў нашых песень, трэба толькі, каб гэты народны скарб не прапаў дарэмна, а захаваўся, а дзеля гэтага трэба запісваць нашы песні з кожнай вёскі, шукаць іх па розных глухіх кутках... Кожная песня, каторая... забудзецца ў народзе — гэта вялікая нацыянальная наша ўтрата».

Лісты, якія М. Арол дасылаў у «Нашу ніву», у віленскую кнігарню, сакратару выдавецкага таварыства, успрымаюцца як штрышкі да біяграфіі чалавека і творцы, імя якога назаўсёды ўпісалася ў гісторыю нашай літаратуры.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

 



## Не будзем рабіць памылак

У друку можна сустрэць такія словазлучэнні: «Пабыць у Санкт-Пецярбурзе», «Адбыўся ў Санкт-Пецярбурзе». Але ж ці ўсё тут у парадку з арфаграфіяй?

Сапраўды, гук [г] пераходзіць у [з] у давальным і месным склонах назоўнікаў жаночага роду. Таму правільней будзе гаварыць: «У Санкт-Пецярбургу». Тым болей, што ніхто не ўжывае, напрыклад, такі выраз: «Гуманітарная дапамога Санкт-Пецярбурзе». Так што давайце не будзем рабіць памылак.

Сяргей ПЕТРЫКЕВІЧ,
вучань СШ № 188.
г. Менск.

## Яканне

*(Заканчэнне. Пачатак у №№ 15, 16).*

Для выдання Статута 1588 года быў спецыяльна падрыхтаваны курсіўны, адметны ад кірыліцкага, шрыфт. Варта дадаць, што тут Вялікае княства Літоўскае значна апярэдзіла Маскоўскую дзяржаву. Здавалася б, што і для некаторых асаблівасцей жывой беларускай мовы ў гэтым шрыфце знойдзецца асобная графічная выява. Але, відавочна, заважыла ўсё тая ж традыцыя. Вядома, графіка, якою карысталася старабеларуская пісьменнасць, была ў пэўным сэнсе дасканалай. Для пісьмовых зносін таго часу гэтага было дастаткова. Але ўсё ж адвольна, калі можна так сказаць, працягваліся пошукі больш зручных графічных сродкаў, якія б адпавядалі асаблівасцям жывой мовы. Паступова знікаюць адны літары, прыкладам, *а ётаванае*, ды з'яўляюцца іншыя — *і, й*, радзей пачынае выкарыстоўвацца *юс малы*.

У друкаваных кнігах, якія пачынаюць выдавацца ў XVIII стагоддзі, сталі выкарыстоўваць літару *і* разам з *юсам малым*, пераважна ў тых выпадках, дзе раней ставілася адно *а ётаванае*. Пачалі ставіць *і* разам з *а* таксама ў пачатку ўласных імён (Іаковъ).

Яканне з цяжкасцю прабівалася на старонкі друкаваных кніг, у справаводства. Нават з развіццём у Супраслі уніяцкага кнігадрукавання нічога не змянілася. А літара *я* была перанята з расійскага «грамадзянскага» шрыфта, які на пачатку XVIII стагоддзя пачалі выкарыстоўваць у Маскве для друкавання свецкіх выданняў. Некаторыя гісторыкі сцвярджаюць, што ў падрыхтоўцы рэформы, а таксама і новых шрыфтоў, удзельнічаў беларус І. Капіевіч.

Перадача якання на пісьме сталася сапраўднай праблемай для беларускіх мовазнаўцаў у першыя паслярэвалюцыйныя гады. Не менш актуальная яна і ў наш час.

## Кароткі слоўнік эканомікі

**АКТЫЎ, АКТЫВЫ. Ад лацінскага «актывус» — дзейсны. У фінансах — адна з частак бухгалтарскага балансу (баланс у французаў літаральна азначае вагі), якая паказвае састаў, размяшчэнне і выкарыстанне сродкаў, што групуюцца па іх прызначэнню ў гаспадарцы. АКТЫВЫ — катэгорыя ўліку. Уключаюць кошт уласнай маёмасці рыначнага аб'екта плюс сродкі і запасы, прызначаныя для аплаты запазычанасці. А. могуць быць матэрыяльныя (адчувальныя) — абсталяванне, будынкі, таварныя запасы — і нематэрыяльныя (неадчувальныя) — патэнты, пазыковыя абавязацельствы. А. падзяляюцца таксама на бягучыя і фіксаваныя ў залежнасці ад таго, можна пераўтварыць іх у грошы на працягу года альбо не. У гаспадарчай практыцы складаецца баланс актываў і запазычанасці — кароткатэрміновай альбо доўгатэрміновай. Кошт уласнай маёмасці фірмы роўны актывам мінус запазычанасць.**

*У свеце слоў*

## ФРЭНЧ

Яшчэ ў дваццатыя — трыццатыя гады многія на Беларусі любілі насіць фрэнчы — прыталеныя пільчакі з сукна ці шчыльнай грубай тканіны, з накладнымі кішэнямі, з хлясцікам ці паяском.

Фрэнчы маглі мець і іншыя элементы аздобы. Гэта была даволі элегантная і прыстойная вопратка. Яна надавала свайму ўладальніку строгі, салідны і, калі хочаце, незалежны выгляд.

Любіла калісь фарсіць у фрэнчах шляхта. Але мода на іх з часам выйшла, і слова спакваля, неўпрыкмет пачало забывацца. І што дзіўна, — нават спецыялістамі. Вось, прыкладам, які эпізод не так даўно адбыўся ў адной з менскіх швальняў.

Надумаўся я пад старасць таксама пахадзіць, а мо нават пафарсіць у фрэнчы. Зайшоў раз у швальню, каб зрабіць заказ. Але не тут тое было. Мы доўга не маглі паразумецца з прыёмшчыцай:

— Што вы хацелі? — пытаецца яна.

— Фрэнч, — кажу.

— А як гэта па-руску будзе?

— Фрэнч.

— Дык гэта што — фрак? — разгублена ўдакладніла яна.

— Ды не, — запярэчыў я. — Фрак — гэта такі капот, халацік з хвосцікам. А я хачу проста фрэнч.

— То гэта, мабыць, куртка?..

Прыёмшчыца збірае цэлы кансіліум. Прыходзяць краўцы, мастакі. Я ім расказваю пра фрэнч і нават раблю замалёўкі. Але бачу: кепска даходзяць мае тлумачэнні. Тады я мусіў дастаць з торбы прыхоплены з сабою стары фрэнч — вылучыў момант і сказаў:

— Вось што мне пашыйце!

Толькі такім чынам мы паразумеліся. Прыёмшчыца і краўцы пагадзіліся, што фрэнч — гэта не зусім пільчак, гэта і не фрак і не куртка, а адметны від верхняй вопраткі. І назва ў гэтай вопраткі свая, арыгінальная — фрэнч. І паходзіць яна ад імя ўласнага.

Праз колькі месяцаў пасля нашай гаворкі ў 45-м нумары «Огонька» за 1991 год з'явіўся артыкул «Френч, пиджак, а также галифе». Значыцца, і Расія чула такое слова: ведае яго, карыстаецца ім. Таму вельмі здзіўляе, што менскім краўцам, якія жывуць бліжэй да Еўропы, гэтак доўга давялося тлумачыць, што такое фрэнч.

Уладзімір СОДАЛЬ.

*ДЗЕСЯЦЬ РАЗОЎ МЕР — І ТО НЕ ВЕР*

## ШТО ПАВІНЕН СКАЗАЦЬ БЕЛАРУС?

Словы з паэмы Якуба Коласа «Новая зямля»: «...Ну, дзядзька, як на смак, прызнайся?» — ужо афарызм — успомніліся мне, калі я чытаў ліст, што прыслаў нам Уладзімір Паўловіч.

*Шаноўная рэдакцыя!*

*Вось пазнаёміўся з чарговай старонкай Размоўніка ветлівага госця, на мой погляд, заўчасна трапіўшага на адну з палос «Нашага слова». Чаму заўчасна, спытаеце Вы? Вельмі проста. Спачатку патрэбна вывучыць беларускую мову, а потым прапаноўваць «штампы» для гутаркі.*

*Што мне не падабаецца? Калі ласка, наступнае. Ствараецца ўражанне, што ў Вас наступная схема працы. Берацё руска-N размоўнік, не змяняеце N-частку і казёншчыну ды й беларускія ўласныя наватворы ставіце ім у адпаведнік. Але, даруйце, у кожнага народа ёсць трывалыя і спецыфічныя формы зваротаў і пажаданняў, якія не заўсёды спалучаюцца адназначна. Аднак ці можна ахвяраваць здабыткам народа і ўтвараць беларускую Нашаслоўскую мову? Адказ катэгарычны — ні ў якім разе. Сорамна за орган ТБМ. Цяпер канкрэтна.*

*Што ёсць такі выраз «Смакуе Вам кава?» — даруйце, «што» ці «хто», «каго» ці «што» смакуе. Падумайце, што Вы кажаце, гэта ж вар'яцтва. Тыповы беларус з нармальнай глебай пад нагамі скажа: «Ці смачная кава?», «Ці прыемная кава?»*

*«Як вам гэта віно на смак?» Ну, ці ж бывае віно смачнае?*

*Ну і самае страшнае: «Смашнога!» — Даруйце, але гэта ўжо польска-N размоўнік. Такі наватвор, як «Смачна есці!» — таксама калька з польскага. Нагадаю, беларусы кажуць: «Прыемна сьнедаць!», «Прыемна абедаць!», «Прыемна палуднаваць!», «Прыемна вячэраць!» або адпаведна «Прыемнага сьнеданьня!», «Прыемнага абеду!», «Прыемнай вячэры!» (за выключэннем палуднаваць). Ну, а шаноўныя спадары з «НС», як людзі вельмі адукаваныя, застаючыся беларусамі, павінны былі б сказаць: «Прыемнага апетыту!» (вядома, казённа, але значна бліжэй да беларускага пажадання)...*

***Уладзімір ПАЎЛОВІЧ.***

Не магу пагадзіцца, што «Прыемнага апетыту» — «значна бліжэй да беларускага пажадання». Гэта ж таксама калька, толькі, магчыма, горшая, бо не жывога, хай нават і чужога, слова. І невыпадкова ў томе «Выслоўі» серыі «Беларуская народная творчасць» (Мн., 1979) ёсць толькі адно падобнае зычэнне: «Прыятнага сна — спаць да паўдня», запісанае Е. Раманавым. А вось прыкладаў «Смашнога!» надрукавана сем. Не палічылі яго чужым і складальнікі календара «Наш край». 1991», дзе ва «Уроках мовы» падаецца і слова «Смашнога!» разам з іншымі парадамі аднаго маладога мовазнаўцы, якога аніяк не абвінаваціш у спробе «спантаннай паланізацыі».

Не магу пагадзіцца з Вамі, што «Смашнога!» — калька. Словы-калькі ўтвараюцца ўсё ж трохі інакш. Больш верагодна, што зычэнне запазычана з польскай мовы: занатавана ж яно ў вёсках Заходняй Беларусі. Але запазычана даволі даўно, гадоў сто таму. З пададзеных у згаданым томе БНТ сямі прыкладаў адзін запісаў польска-беларускі этнограф Міхал Федароўскі, які доўгі час жыў на Беларусі і збіраў тут, пераважна ў ваколіцах Шарашова, Ваўкавыска, Слоніма, матэрыялы для сваёй шматтомнай працы «Люд беларускі». У 1886 годзе ён ужо амаль закончыў зборы і меў падрыхтаваныя да друку першыя шэсць тамоў. Сучасныя беларускія этнографы і мовазнаўцы таксама чулі згаданае слова ў Слонімскім, Мядзельскім, Докшыцкім раёнах у сямідзесятыя гады. За гэты час тут сама меней пяць разоў мянялася ўлада, а зычэнне ўсё яшчэ жыве.

Не заслугоўвае наш народ Вашых папрокаў за «Смашнога!». Абрабаваны суседзямі, пакінуты на волю лёсу (ужо ў наш час) сваімі мовазнаўцамі, ён калі-нікалі і вымушаны быў пазычаць, бо народная культура развівалася, народны этыкет патрабаваў адпаведных новаму часу слоў для вітання, зычэння — беларуская мова ж колькі разоў забаранялася!

Дарэчы, супадзенне слоў суседніх моў яшчэ не азначае, што адно з іх абавязкова запазычанае. Прыкладам, слова *пан*. Нельга лічыць яго запазычаным з польскай мовы, бо гэта не ўласнапольскае слова. Яно паходзіць ад індаеўрапейскага кораня, і, напэўна, раней утварылася імя міфічнага грэчаскага *Пана*.

Што да слова *смак*, то трэба сказаць, што яно ёсць не толькі ў польскай, але і ў нямецкай мове. Магчыма, адтуль яно, як лічыць нямецкі лінгвіст М. Фасмер, і запазычана. Мяркуйце самі. Беларускае *смак* адрозніваецца ад smak так званай сярэдненіжненямецкай мовы (была распаўсюджана ў XIV стагоддзі) толькі тым, што напісана кірыліцай. (Дарэчы, такіх супадзенняў шмат.) Але беларускае *смак* мае так многа значэнняў, што напрошваецца выснова: абодва словы паходзяць ад аднаго кораня. Асноўнае значэнне яго — *адчуванне, якое ўзнікае...*: салодкі смак, кіслы смак, горкі смак. Менавіта з такім значэннем гэтае слова выкарыстана і У. Караткевічам і В. Быкавым.

Так, відавочна, і з словам *смакаваць*. Як у нямецкай мове яно мела некалькі значэнняў, так і ў беларускай. Апроч *адчуваць смак*, ёсць яшчэ адно значэнне гэтага слова — *мець смак*. І ад абодвух утварылася слова: *смакаваць*. Адно значэнне яго — *каштаваць, прабаваць на смак*, — як у Якуба Коласа: «каб дазнацца смаку-густу», — а другое — *смакаваць* ад *мець смак*. (Падобна, як з ацэнкай вартасці рэчы: *мець кошт — каштаваць*). Магчыма, Вас, спадар У. Паўловіч, бянтэжыць, што гэтага слова няма ў ТСБМ. То трэба сказаць, што там шмат чаго няма. А нашая ж мова, як сказаў Адам Міцкевіч, вельмі старажытная і дасканала распрацаваная.

Замольваючы прылюдна свой «грэх» (менавіта я рыхтаваў да друку той размоўнік), я не хацеў тым сказаць, што толькі «Смашнога!» можа стаць нормай. Наша мова багатая, і, напэўна, знойдуцца іншыя вартасныя, цікавыя выслоўі (як, прыкладам, «знайшлі» слова *спадар*). Зусім нядаўна я даведаўся, што беларусы казалі таксама ў такіх выпадках: «Сыць, Божа!» Хацелася перш за ўсё яшчэ раз нагадаць пра неўнармаванасць беларускай мовы. Гэтая праблема патрабуе самай пільнай увагі, адкладваць яе нельга.

Здзіслаў СІЦЬКО.



 




*Рубрыку вядзе*
*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Арыгінальнасцю формы, своеасаблівай глабальнай філасафічнасцю і ў той жа час сцісласцю вызначаюцца творы японскай сярэднявечнай паэзіі. Да нашчадкаў дайшло шмат анталогій, дзе сабраны вершы найлепшых тагачасных японскіх паэтаў: «Кокінсю» (IX стагоддзе), «Госэнсю» (951 г.), «Сюісю» (1007 г.), «Сікасю» (1151 г.), «Сэндзайсю» (1187 г.), «Сінкокінсю» (1205 г.) і інш. Сёння ўвазе аматараў паэзіі прапануюцца творы некалькіх паэтаў канца XII — пачатку XIII стагоддзя. За аснову для перакладаў узяты украінскія пераклады добрага знаўцы ўсходняй паэзіі Генадзя Туркова.

### *Сікісі-Найсіна (1151—1201)*

* * *

У гэтай горнай глушы
Дзверы з сасновых іголак
Не ведаюць, што ўжо вясна,
І са снегу, што на страсе,
Па іх раз-пораз збягаюць кроплі.

* * *

Пакуль яшчэ я жывая,
Не доўж маіх пакут, каханы,
Аж да заўтра.
Калі ўжо хочаш прыйсці да мяне,
Дык сёння ж увечары й прыходзь!

* * *

Штораз уранні,
Засяроджаная,
Заглыбленая ў сваю душу,
Я смуткую, што змрочныя сны
Яшчэ знаходзяцца там.

### *Фудзівара Садае (1162—1241)*

* * *

Хісткі масточак сну
Кароткай вясновай начы
Абарваўся... Але затое,
Ад вяршыні гары аддаліўшыся,
Паплылі па небе хмаркі.

* * *

Любуючыся месяцам,
Можна забыць нават,
Што цяпер восень.
Ды пранікаў ляскат, на жаль,
Табе пра яе нагадае.

### САЙГЕ (XII стагоддзе)

* * *

Ці буду я злавацца
На чалавека, які пачаў
Цурацца мяне!
Бо ж быў такі час, калі
Адзін аднаго мы не зналі.

* * *

Вецер падхапляе
Дым з жарала Фудзіямы —
І ён знікае ўверсе,
Але куды — невядома:
Як і пякучыя думкі мае!

Пераклад
Лявона БАРШЧЭЎСКАГА.

## *Проза*

*Вольфганг ЛАНГЕ*

# Дванаццаць вінаватых

*(Працяг. Пачатак у № 16).*

Альфрэду Мойзле трэба было весці на луг казу, але ён ведаў, што павінен заняць свой пост,— да гэтага ў поўнай ступені яго абавязваў ягоны мундзір. Прывязаўшы казу да рэштак агароджы, ён сеў на нізкі цокаль, які яшчэ нядаўна служыў п'едэсталам абеліску.

Обер-вахмістр Бесельман пайшоў дадому, выцягнуў на вуліцу свой веласіпед і паехаў да Готхальда Клёйдэрэра. Як паводзіць сябе там, ён не ведаў. Расказваць Клёйдэрэру, што здарылася,— марная трата часу: пра гэта той ведае лепш за другіх. А выгаворваць яму за гэтае здарэнне обер-вахмістру не пасуе. Значыць, ён паедзе толькі дзеля таго, каб сказаць: «Прабач, Готхальд, але ці абавязкова такое павінна было здарыцца?» і «Пагляджу, што для цябе можна зрабіць».

Аднак перш чым цень ад царкоўнай вежы прапоўз на тры пядзі ўбок, Бесельман вярнуўся назад. Сапучы ад утомы, ён прыставіў веласіпед да сцяны рэзідэнцыі бургамістра і падняўся на ганак. У кабінеце ён выцер стракатай, у клетачку, насоўкай сваю плешыну і скураны абадок форменнай шапкі і зняў тэлефонную трубку.

Іаганес Фаўльхубер, інспектар ландаўскай крымінальнай паліцыі, нічога на свеце так не любіць, як сапраўднае «мока». Ён можа прыйсці ў шалёную лютасць, калі бачыць, як абыякава некаторыя людзі ставяцца да кавы. Сыплюць у кафейнік дзве — тры лыжачкі парашку, заліваюць гарачай вадой — і гатова! У інспектара ад гэтага аж сэрца заходзіцца. Гатаванне кавы для яго — свяшчэннадзейства. Ён апалоскае кафейнік варам і сам меле падсмажаныя бабы ў маленькім ручным млынку, потым засыпае драбочак солі, чуць-чуць — з кончыка нажа — тоўчанай карыцы і багата цукру і, нарэшце, улівае ў кубак напарстак каньяку.

З тае прычыны, што я яго асістэнт, мне двойчы на дзень даводзіцца прысутнічаць на гэтай цырымоніі. Дакладна ў вызначаны час Фаўльхубер шырока расчыняе дзверы, якія злучаюць нашы кабінеты, і робіць мне ўрачысты знак рукой. Мой абавязак — адамкнуць сталёвы сейф, у якім захоўваюцца нашы пісталеты і спісы расшукваемых асоб, і ўзяць адтуль прыправу: усё астатняе ён робіць сам. Толькі калі мы сядзім ужо за яго пісьмовым сталом, папіваючы гарачую каву, я, нарэшце, парушаю ўрачыстую цішыню: «Цудоўна!» Ён толькі летуценна плюскае вачамі.

Вось і сёння было так. Але перш чым мы напалову апаражнілі свае кубкі, забрынчаў тэлефон.

— Нехта звоніць,— прамовіў Фаўльхубер.

— Ага,— адказаў я.— Не ў час.

— Спадзяюся, нічога сур'ёзнага,— сказаў інспектар.

— Можа, возьмеце трубку? — прапанаваў я.

Фаўльхубер працягнуў руку, зняў трубку і моўчкі паслухаў, потым, прыкрыўшы далонню мікрафон, глянуў на мяне і сказаў:

— З Бюхельбурга. Обер-вахмістр Бесельман.

Я пайшоў у свой кабінет і ўзяў паперу і алоўак. Калі я вярнуўся, інспектар усё яшчэ гаварыў па тэлефоне. Мы з ім добра спрацаваліся. Ён паўтараў самае важнае з таго, што на другім канцы провада бубніў у трубку Бесельман, а я запісваў.

«Аварыя,— пісаў я.— Пустая аўтамашына. Вадзіцель уцёк ад адказнасці. Уладальнік машыны — Клёйдэрэр, два дні ў ад'ездзе. Пытанне, што ён вінаваты, адпадае. Узламаны гараж — угон машыны. Пакуль ніякіх зыходных даных». Унізе я паставіў дату і час.

Фаўльхубер паклаў трубку. Па ім нельга было здагадацца, што ён думае пра гэтую навіну. Як і заўсёды, распараджэнне яго было лаканічнае і дакладнае:

— Зірніце, ці ёсць у нас што-небудзь на гэтага Клёйдэрэра — судзімасць ці іншае. Потым паедзем на месца. Ад паслуг прадстаўніка транспартнай паліцыі адмовімся. Вы ж працавалі ў гэтай арганізацыі да таго, як перайшлі да нас, так? Не забудзьце ўзяць рулетку.

Інспектар сядзеў за пісьмовым сталом, утаропіўшы позірк на кафейнік. І толькі калі я прынёс усё, што ён прасіў, загадаў, нарэшце, падаць службовую машыну.

Едучы ў Бюхельбург, мы моўчкі цешыліся сонечным жнівеньскім днём. Тры гады назад інспектар пахаваў жонку, і цяпер яго хатняй гаспадаркай займалася далёкая сваячка. Жыццё яго апошні час, відаць, было даволі бязрадаснае. Лепш за ўсё ён, па-мойму, адчуваў сябе на рабоце.

Машына наша апынулася ззаду вялізнага грузавіка. Фаўльхубер пераключыў счапленне на трэцюю хуткасць і запаліў цыгару.

— Калі Клёйдэрэр сапраўды ў ад'ездзе,— разважаў ён сам з сабой,— значыць, гэта не ён зрабіў. Але, магчыма, спачатку ён наехаў на помнік, потым даў цягу.

— Напрыклад, баяўся, што ў яго адбяруць вадзіцельскія правы,— уставіў я.

— Альбо таму, што алкаголю ў яго крыві было на некалькі тысячных больш, чым дазваляецца.

— Але гараж узламаны, значыць — крадзеж.

— А можа гэта для таго, каб увесці нас у зман.

— Надта ўжо вытанчана,— я пакруціў галавой.

— Вясковы чалавек да такога не дадумаецца.

Фаўльхубер выпусціў струмень дыму на ветравое шкло — убачыў, што можа перагнаць грузавік. І, удала яго аб'ехаўшы, сказаў:

— Вы дрэнна ведаеце баўэраў. Што можа прыйсці ім на розум, ні ў якія вароты не лезе.

Пасля вайны, у час якой, аж да апошняга дня, Фаўльхубер служыў обер-яфрэйтарам, ён цэлы год працаваў на зямлі. У Штутгарце, адкуль, між іншым, ён паходзіў, і каменя на камені не засталося ад яго двухпакаёвай кватэры: авіяцыйная бомба з Мінесоты ці з Арканзаса разбурыла будынак, як картачны домік, і Фаўльхуберу давялося шукаць прытулку ў аднаго баўэра, які наняў яго за трыццаць марак у месяц і даў начлег на вышках у стайні. Тады ён і набраўся такіх-сякіх ведаў у галіне паляводства і жывёлагадоўлі. Цяпер яны, вядома, безнадзейна ўстарэлі. Але ў сялянскай хітрасці і прыроднай кемлівасці інспектар, здаецца, добра разбіраўся. Калі мы праехалі міма жоўтага шчытка з надпісам «Бюхельбург», ён пачаў расказваць мне пра чалавека, які кожны раз, як прыходзіў тэрмін запаўняць падатковую дэкларацыю, спускаў паветра з колаў трактара і праводзіў сваю транспартную адзінку па рубрыцы «У цяперашні час непрыдатна да эксплуатацыі».

Я слухаў яго адным вухам, таму што мы ўжо ехалі па галоўнай вуліцы, якая вяла да рыначнай плошчы. Гарадок спадабаўся мне з першага позірку. Хоць я жыў у Ландау чатыры ўжо гады, мне ні разу не даводзілася быць у Бюхельбургу.

Фаўльхубер зрабіў апошні паварот, і мы выехалі на плошчу. Вось разбіты помнік і паламаны «мерседэс». Месца здарэння яшчэ абступалі дзеці. На цокалі помніка сядзеў чалавек у чыгуначнай форме, а да агароджы была прывязана каза. Усё выглядала неяк нерэальна, гратэскава, быццам у старым кінафільме.

Фаўльхубер падруліў да канцылярыі бургамістра. Мы выйшлі з машыны і падняліся на ганак. У пачатку цёмнага калідора вісела эмаляваная таблічка: «Гарадская паліцыя».

Обер-вахмістр Бесельман не пачуў, як мы пад'ехалі,— відаць, задрамаў. Убачыўшы нас, ён страпянуўся, выцягнуўся перад намі і, у знак прывітання, прыклаў руку да галавы, што было вельмі камічна, бо з неспадзеўкі ён забыўся надзець шапку.

Фаўльхубер махнуў рукой:

— Не трэба,— і падаў Бесельману руку.— Як маецеся? Даўно не бачыліся, так? Апошні раз сустракаліся на спартыўным свяце паліцыі. Вы былі ў камандзе, што выступала супраць нас, калі мераліся сілай — хто перацягне канат.

— ...і, натуральна, прайграла,— закончыў я.

Інспектар пакасіўся на мяне. Ён не любіў, калі адразу паказваюць сваю перавагу.

— Раскажыце нам, што тут у вас, уласна кажучы, адбылося,— папрасіў ён Бесельмана.— Па тэлефоне ніколі ўсяго добра не зразумееш.— Інспектар падсунуў да сябе крэсла і сеў за стол, на якім кучай ляжалі нумары «Ландаўскага весніка» і некалькі афіцыйных бланкаў.

Мы з обер-вахмістрам таксама селі.

Бесельман расказаў крыху занадта падрабязна і даволі суб'ектыўна. Здавалася, што здарылася нешта вельмі незвычайнае і толькі дзякуючы доблесным дзеянням бюхельбургскага вахмістра ў горадзе цяпер пануе парадак.

Я занатоўваў яго словы ў блакнот. Фаўльхубер раз-пораз нецярпліва ўздыхаў і нарэшце прапанаваў пайсці агледзець месца здарэння. Бесельман падняўся з крэсла і начапіў на партупею нейкую бясформенную кабуру.

Утрох мы пайшлі ў цэнтр рынку. Бесельман некалькі разоў спрабаваў прагнаць адтуль дзяцей, але як толькі ён паварочваўся да іх спінай, яны зноў акружалі нас. Усунуўшы галаву ў адчыненыя дзверцы, інспектар уважліва агледзеў машыну. Але нічога важнага не заўважыў. На прыборнай панелі ціхенька цікаў гадзіннік, які вытрываў гэтую аварыю.

Я ўзяў з нашай службовай машыны рулетку, крэйду, кардон і ўзяўся за справу. Першнаперш змераў след тармажэння і вугал наезду, пасля праверыў ціск у шынах і агледзеў пашкоджанні, якія атрымала машына. Звычайная працэдура. Бесельман памагаў мне, як мог. Час ад часу адганяў цікаўных дзяцей.

Інспектар Фаўльхубер тым часам гутарыў з чалавекам у чыгуначнай форме. Сеў на цокаль помніка побач са старым і прапанаваў яму цыгару. Абодва выпускалі ў блакітнае неба белыя кольцы тытунёвага дыму.

*(Працяг будзе).*



# На мяжы — без перамен




Тут па-ранейшаму заторы. Накапілася ўжо каля двухсот турысцкіх аўтобусаў. Чаканне цягнецца восем-дзевяць дзён. Легкавы транспарт прапускаюць толькі па службовых камандзіроўках.

НА ЗДЫМКУ: багаж «турыста».

Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ, Сяргея ЖАЛУДОВІЧА. (БелТА).

# Беларускі народны каляндар

*Май (травень)* — апошні месяц вясны і адзін з самых важных у жыцці земляроба. Пара, калі ўрабляецца на пух і абсяваецца ворыўнае поле. Ад руплівай працы селяніна і надвор'я ў гэты час залежыць будучы ўраджай. Таму народны каляндар у прыказках, прымаўках, прыкметах-прагнозах і веснавых абрадавых песнях асабліва вылучае гэту пару. Людзі казалі: «У травень будзь мужык управен», «Майская трава галоднага корміць», «Май — і пад кустом рай».

*Надвор'е ў маі і звязаныя з ім прыкметы:* «Месяц май: сена каню (валу) дай, а сам на печ уцякай», «Май зямлю грэе, а сіверам вее», «Вясной дажджы не лішнія», «Калі май халодны, дык год хлебародны», «Май дажджлівы — год урадлівы», «Як у маі суха, то падцягвай бруха», «У маі мароз — не будзе раёў».

*Прыкметы на сяўбу:* «Сей смела, калі ў саду бела», «Як зязюля скажа «ку-ку», тады сей на цэлу руку», «Калі запяе ўдод, тады сей боб», «Жаба голас падала — сей авёс; як паявяцца камары — сей жыта; не сей пшаніцу наперад дубовага лісту», «Калі на елцы шышкі стануць красныя, а на сасне зялёныя — сей ячмень», «Не сей пшаніцы, калі дзеўкі ідуць па суніцы».

Апяванне земляробчай працы пачыналася з Вялікадня (валачобныя песні). Свята Пасхі не абмяжоўвалася трыма днямі. Серада святкавалася «ад граду» (градавая серада), чацвер — «ад грому», пятніца — «ад засухі», субота — «ад паморку жывёлы». «Вялікадні» цягнуліся да гадавога свята Міколы ўключна. Юр'я і Міколу так і звалі «святачкамі-велікоднічкамі». Абодва святыя надзяляліся аднолькавымі «ахоўнымі функцыямі» ў адносінах да сялянскай гаспадаркі. Юр'я клапаціўся і ахоўваў жывёлу, Мікола — ураджай у полі. У народнай песні Юр'я «зямлю адмыкае — расу выпушчае», Барыс «ляды палівае», Мікола «па межах ходзіць — жыта родзіць». Падаём урывак з гэтай песні ў запісе А. Багдановіча:

Святы Юрый, Божы
ключнік,
Зямлю адмыкае — расу
выпушчае;
Расу выпушчае — статак
выганяе;
Статак выганяе, слоўца
вымаўляе:
Каб таму статку не было
ўпадку
Ад таго змея грымучага,
Ад таго гада бягучага,
Ад той ведзьмы кароўніцы.
А святы Мікола, старая
асоба,
Па межах ходзіць — жытца
родзіць,—

## Святы Юрый, Божы ключнік, зямлю адмыкае

Ядравістае, каласістае,—
Зерне к зерню — каласок
у зямлю;
Каласы гнуцца, у зямлю
б'юцца...

3 (нядзеля). *Апостал Фама* (у праваслаўных).

5. Аўторак Фаміноintroducing нага праваднога-паслявелікоднага тыдня. *Радаўніца (Радуніца, Радуніцкія дзяды)* — старажытнае вясновае свята, звязанае з культам продкаў. У гэты дзень паміналі нябожчыкаў напачатку ў царкве, затым ішлі на могілкі. Прыбраўшы магілы, на курганку ладзілі памінкі, часта з плачам і галашэннем. Канчалі памінаць душы продкаў дома («На Радаўніцу да абеду пашуць, па абедзе плачуць, а ўвечары скачуць»). Назва свята паходзіць ад імя міфічнага бога Рады ці, магчыма, ад слоў «род» або «радзіць».

6 (серада). *Юр'я (Юрай, Юрыла, Ягорый)* — старажытнае гадавое свята земляробчага календара, якое адзначалася ў гонар заступніка жывёлы і гаспадаркі Юр'я. Першапачаткова існаваў культ язычніцкага бога ўрадлівасці і плоднасці Ярылы («Валачыўся Ярыла па ўсяму свету. Полю жыта радзіў, людзям дзеці пладзіў»). У часы хрысціянства Ярыла быў заменены святым Георгіем Перамоганосцам, Юр'ем. У беларускай міфалогіі ўяўляўся прывабным юнаком у белым адзенні на белым кані. Для свята характэрна багатая абрадавасць з элементамі магічнага дзеяння. Адзін з абрадаў апісаў А. Багдановіч.

Гаспадар уставаў да ўсходу сонца і выганяў асвячонай вярбой жывёлу ў поле, на цудадзейную «Юр'еву расу». Асвячоныя яйка, соль, косці, вуголле, што браў з дому, закопваў на чатырох вуглах свайго поля, каб засцерагчы яго ад граду, засухі і «заломаў» вядзьмаркі. Пасля чаго варочаўся з жывёлай назад. Удзень пастухі пяклі ў полі яешню. Перад ядой яны абыходзілі статак з хлебам, соллю і палаючымі галавешкамі. Адзін з іх павінен быў сказаць наступную замову ад злыдня-«хлеўніка», які, па павер'ю, псаваў жывёлу:

Як у нас Юр'я
Коні пасець,
Статак сцiражэць,
Нячыстую сілу проч
адганяіць,
Хлеўніка і цмока
Вожахам порыць,
Прыгаварываець:

Хіра (хвароба, погань)
у лес!

*Народныя прыкметы:* густы дождж на Юр'я — да буйнога, густога жыта і недароду грэчкі; дробны дождж крапіць — да добрай травы і малочнага лета, мароз — да ўраджаю на проса і авёс; ні снегу, ні дажджу — лета выдасца сухое, неўрадлівае; зязюля кукуе — таксама да недароду.

8 (пятніца). *Апостал Марк.* На Марка ўжо прылятаюць чародамі птушкі («Дождж на Марка, дык зіма як скварка»).

13 (серада). *Якуб* («На Якуба грэе люба»)

15 (пятніца). *Барыс і Глеб.* Пачатак сяўбы яравога хлеба («Барыс — салаўіны дзень», «Барыс і Глеб сеюць хлеб»).

21 (чацвер). *Іван Багаслоў.* У старажытнасці прысвятак *«Міколаў бацька»*. Пазней да яго быў прымеркаваны дзень апостала і евангеліста Івана Багаслова. У гэты дзень сеюць моркву, агуркі, рэдзьку.

22 (пятніца). *Мікола веснавы.* Старажытнае гадавое свята, да якога пазней быў дастасаваны дзень Міколы-цудатворца. Святкуецца ў маі і ў снежні. Паводле народных вераванняў, Мікола ходзіць па зямлі і даглядае пасевы: «Дзе вымакла — там падсушыць, дзе высахла — там падмочыць». Земляробчы каляндар раіць: «Прыйшоў Мікола — сей наўкола».

Мікольшчыну святкавалі, каб забяспечыць сабе добры ўраджай на будучае, а таксама ў падзяку за папярэдні спорны плён. Стараліся задобрыць Міколу асабліва тыя, у каго быў недарод. У добрае надвор'е збіраліся звычайна ўсёй вёскай у полі, у дрэннае — па хатах. На баль запрашаліся ўсе, хто дзе ішоў або ехаў па дарозе, нават жабракі. Частаваліся гарэлкай і мёдам, спявалі абрадавыя песні.

Як пайшоў Мікола ў чыстае
поле,
У чыстае поле жыта
аглядаці.
Радзі, Божа, жыта, радзі,
Божа, жыта
Густа, каласіста, густа,
каласіста,
Ядром ядраніста...

28 (чацвер). *Ушэсце (Узнясенне панскае, гасподняе)* у каталікоў. Саракавы дзень пасля Вялікадня, калі, паводле хрысціянскай легенды, Ісус Хрыстос узнёсся на неба.

У праваслаўных на гэты дзень прыпадае *Пахом* — прысвятак народнага календара, «агароднае свята», на якое трэба садзіць агуркі («Пасееш агуркі, калі Пахом, будзеш хадзіць з мяхом»).

29. *Грамабойная пятніца.* Забараняецца працаваць, каб улетку не было граду.




## ВЫКАРЫСТАННЕ МЁДУ Ў КАСМЕТЫЦЫ

Пчаліны мёд — выдатны касметычны сродак. Ён змякчае, ачышчае і ўмацоўвае скуру твару, згладжвае і папярэджвае маршчыны, жывіць тканкі, мышцы і кончыкі нерваў. З лекавымі мэтамі рэкамендуюцца маскі з чыстага мёду або ў сумесі з яечным бялком, жаўтком, сокам лімона, рыцынай, спіртам, смятанай. Маскі накладваюцца на ачышчаную скуру. Рэкамендуюцца наступныя рэцэпты.

1. 1 чайную лыжку мёду, такую ж колькасць рыцыны, 1 жаўток расцерці да атрымання аднароднай масы. Маску трымаць на твары 10—15 мін., затым апаласнуць яго цёплай вадой. Рэкамендуецца пры сухой скуры і маршчынах.

2. 100 г мёду змяшаць з сокам аднаго лімона. Маску трымаць 10—15 мін., затым апаласнуць твар вадой пакаёвай тэмпературы. Рэкамендуецца пры сухой і нармальнай скуры.

3. 100 г падагрэтага мёду змяшаць з 2 сталовымі лыжкамі вады і такой жа колькасцю спірту. Скуру ачысціць алеем. Маску трымаць 10—12 мін., змыць цёплай вадой і прыпудрыць твар. Умацоўвае і дэзінфіцыруе скуру.

4. 2 сталовыя лыжкі пшанічнай мукі змяшаць з узбітым бялком аднаго яйка і 1 чайнай лыжкай мёду. Маска накладваецца на 10—15 мін., змываецца халоднай вадой. Засцерагае скуру ад маршчын.

5. 90 г ячменнай мукі, 35 г мёду, узбіты бялок аднаго яйка перамяшаць. Маску трымаць 10—15 мін. Жывіць і засцерагае скуру ад маршчын.

Карысна для скуры твару і «мядовая вада» (1 сталовая лыжка мёду на 2 шклянкі халоднай вады). Рэкамендуецца на працягу 5—7 мін. мыць твар на ноч. Затым апаласнуць цёплай вадой без мыла.

Рэцэпт мядовага раствору для рук (змякчае скуру, пазбаўляе ад шурпатасці і трэшчынак): 3 сталовыя лыжкі рыцыны, 1 чайную лыжку нашатырнага спірту, буры на кончыку нажа, 1 чайную лыжку мёду, 0,5 шклянкі вады змяшаць. Перад скарыстаннем узбоўтаць.

**ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ пры садзеянні Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны праводзіць рэспубліканскую канферэнцыю «Беларуская мова і нацыянальна-дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь».**

**Канферэнцыя мае адбыцца 15 мая г. г. у Доме літаратара (г. Менск, вул. Фрунзе, д. 5). Пачатак у 10 гадзін 30 хвілін.**

**З 9 гадзін 30 хвілін (пры неабходнасці і ў час перапынкаў) плануецца пасяджэнне Рэспубліканскай Рады ТБМ з павесткай дня:**

**1. Справаздача аб фінансава-гаспадарчай дзейнасці Рэспубліканскай Рады ТБМ за 1991 год і за 1 квартал 1992 г.**

**2. Аб выдавецкай дзейнасці Таварыства.**

**3. Рознае.**

**Просім накіраваць прадстаўнікоў рэгіянальных арганізацый ТБМ імя Ф. Скарыны ў Менск (заезд 14 мая ўвечары) для ўдзелу ў канферэнцыі.**




Наш адрас: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.

Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.





МВПА імя Якуба Коласа. Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».

Наклад 7339 пзасобнікаў. Зак. 1175. Індэкс 63865.